**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 24 (896) 15 чэрвеня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
# Вольнае Глыбокае
vglybokaye@tut.by









**Сёлета на Глыбоччыне – 281 выпускнік! На здымку: выпускніца Глыбоцкай СШ №3 Юлія Ігараўна Скрабатун атрымлівае з рук дырэктара школы Васіля Аляксандравіча Любозы атэстат аб сярэдняй адукацыі і Пахвальны ліст за поспехі ў вывучэнні гісторыі Беларусі.** *Фота Ул. Скрабатуна.*















**Увага!!!** Газету «Вольнае Глыбокае» можна выпісаць на 2-е паўгоддзе 2017 г ва ўсіх паштовых аддзяленнях «Белпошты» Віцебскай вобласці.
**Індэксы выдання**: індывідуальная – 63668, кошт падпіскі на 1 месяц – 3 руб. 96 кап.; **ведамасная – 636682**, кошт падпіскі на 1 месяц – 7 руб. 31 кап.

ISSN 2077-8023



## Мёрскі раён

# Даўгабуду будзе канец?

■ Станіслаў Раманчук.

**Ніводнаму, бадай, будаўнічаму аб'екту ў краіне не давялося перажыць столькі праблем, як недабудаванай новай райбальніцы ў Міёрах.**

Сёлета мінула чвэрць стагоддзя, як пачалі ўводзіць там вельмі патрэбную для раёна медустанову. Ужо столькі часу ў райцэнтры адчуваюць значныя праблемы, бо аддзяленні мясцовай ЦРБ раскіданы ў 11 розных будынках па ўсім горадзе. Радзільнае аддзяленне ўвогуле адкрылі стагоддзе назад. Там толькі адзін санвузел і парадзіхам з малышамі прыходзіцца перажываць вялікія нязручнасці. Ад адчаю людзі звярнуліся за дапамогай на выязным прыёме да старшыні Камітэта Дзяржкантролю Беларусі Л. Анфімаву, і той, сапраўды, дапамог. Галоўнае, што завяршэнне будаўніцтва ў горадзе новай сучаснай клінікі ўключылі ў рэспубліканскую інвестыцыйную праграму. Тэрмінам здачы яе ў эксплуатацыю вызначылі май наступнага 2018 года. На а'бект выдзелілі патрэбныя сродкі, а пераможцам тэндару на на завяршэнне будаўніцтва выйшаў калектыў трэста "Полацксельбуд". На закінутай у мінулым вялізнай бетоннай пяціпавярхоўцы цяпер закіпела работа. Галоўнага ўрача райбальніцы і ўвесь калектыў парадавала, што штаб будоўлі прыняў рашэнне павялічыць працоўны дзень на адну гадзіну, каб выканаць у тэрмін усе намечаныя работы. Штодзень зараз на аб'екце працуюць звыш ста будаўнікоў і смежнікаў з 12 падрадных і спецыялізаваных арганізацый. Акрамя мясцовых рабочых прыехалі ім на дапамогу і калегі з ПМК суседніх Браслава, Шаркаўшчыны і Глыбокага. Актыўна ўзводзіцца новы харчблок, пачалася абліцоўка сцен бальніцы, пракладка неабходных інжынерных сетак. Цяпер усе не сумняваюцца, што налета міёрцаў чакае радаснае наваселле, а новы бальнічны гарадок стане ўпрыгожваннем райцэнтра.

## Бешанковіцкі раён

# Вада – забойца

■ Кастусь Александровіч

**З надыходам цёплых сонечных летніх дзён многіх людзей нібы магнітам цягне адпачыць на ўлонні прыроды, падыхаць свежым паветрам, асвяжыцца ў вадзе.**

Аднак пры незахаванні элементарных правілаў бяспекі павялічваецца рызыка трагічных здарэнняў. Ніхто не прадчуваў, што можа здарыцца бяда летнім вечарам у вёсцы Рубеж, што ў Бешанковіцкім раёне. Там на панадворку гуляла мясцовая маладая мама са сваім 2-гадовым сынам. На некалькі мінут жанчына пакінула малыша аднаго каля дома, а сама пайшла ў памяшканне, каб прынесці яму папіць соку. Каля вярнулася, то нідзе малога ўжо не ўбачыла. Да яго пошукаў неўзабаве падключылася і бабуля, якая вярнулася ад суседкі. Дарослыя клікалі дзіця, шукалі яго потым на вуліцы, дзе гулялі іншыя хлопчыкі і дзяўчынкі, але той нібыта прапаў. Як аказалася, гэты малыш рос вельмі актыўным і цікаўным. Ён бачыў раней, як дарослыя хадзілі да сажалкі, паблізу дома. Інтуіцыя падказала бабулі, што ўнучак мог туды пайсці. На жаль, яна не памылілася і з жахам убачыла ў вадзе цела хлопчыка ў вадаёме. Яго дарослыя дасталі, спрабавалі вярнуць да жыцця, але прыбыўшыя па выкліку медработнікі канстатавалі, што ён утапіўся, трагічна загінуў. Па гэтым факце пачалася праверка, але нічога ўжо нельга змяніць, а для гэтай нармальнай сям'і прыйшло раптам непапраўнае гора. Перад гэтым каля 21 гадзіны вечара на адным з азёр у Полацкім раёне падчас купання таксама трагічна патануў студэнт падрыхтоўчага аддзялення біямедыцынскага ўніверсітэта з Нігерыі.

## Шумілінскі раён

# Раўненне на кіраўніка

■ Чэслаў Якубовіч.

**У свеце многія даўно зразумелі, што прымальныя фізічныя нагрузкі, актыўны лад жыцця, заняткі спортам толькі ўмацоўваюць здароўе і самаадчуванне людзей розных пакаленняў.**

Ад сучасных тэндэнцый стараюцца не адставаць у Прыдзвінні і днямі ў трэці раз правялі ў Шумілінскім раёне абласную спартакіяду органаў дзяржкіравання. На базе аздараўленчага цэнтра "Дружба" УП "Віцебскаблгаз" сабраліся звыш 400 дзяржслужачых, якія прадстаўлялі 27 каманд гарадоў і раёнаў Віцебшчыны. На ўрачыстай цырымоніі адкрыцця агонь спартакіяды запаліў легендарны барэц, сярэбраны прызёр Алімпіяды-80 Ігар Каныгін. На працягу двух выхадных дзён удзельнікі змагаліся на валейбольных пляцоўках, у спаборніцтвах па стральбе, настольным тэнісе, бадмінтоне, лёгкай атлетыцы, шашках і цяжкай атлетыцы, а па шэрагу відаў каманды павінны былі ўзначальваць іх кіраўнікі. Многія з іх паказалі надрэнны ўзровень фізпадрыхтоўкі, а глава Шумілінскага раёна Аляксандр Снароў стаў лепшым сярод тэнісістаў і заваяваў 2-е месца ў спаборніцтвах па бадмінтоне, выходзіў і на валейбольную пляцоўку. У чарговы раз па-добраму здзівіў усіх старшыня Віцебскага аблвыканкама, майстар спорту Мікалай Шарстнёў. У жыме штангі лежачы, ён з вынікам 170 кг устанавіў рэкорд Беларусі для ветэранаў. У яшчэ адной дысцыпліне глава вобласці падабраўся да рэкорду свету, змог за 1 мінуту штурхнуць двухпудовую гірy 53 разы. З улікам набраных балаў у іншых відах зборная аблыканкама стала зноў пераможцам абласной спартаккіяды дзяржслужачых і апярэдзіла на п'едэстале гонару калег з Бешанковіцкага райвыканкама і Наваполацкага гарвыканкама. У дзясятку самых спартыўных каманд упраўленцаў вобласці ўвайшлі прадстаўнікі Гарадка, Браслава, Оршы, Лёзна, Чашнікаў і дзяржадміністрацый двух раёнаў Віцебска.

# Аб самым надзённым

## БЕЛАРУСІ, САПРАЎДЫ, ЦЯЖКА БАЛАНСАВАЦЬ ПАМІЖ РАСІЯЙ І ЗАХАДАМ, АЛЕ НАМ ВАЖНА ЗАМАЦАВАЦЦА НА РЫНКАХ ЕС І ЎСТУПІЦЬ У СГА




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Адначасова наша краіна апошнім часам актывізавала перамовы аб сваім уступленні ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. У мінулым годзе былі паспяхова завершаны двухбаковыя перамовы па гэтым пытанні з такімі магутнымі эканамічна краінамі, як Японія і Карэя. Былі падпісаны пратаколы з гэтай нагоды, застаецца яшчэ дамовіцца аб членстве ў СГА з застаўшыміся 10-15 дзяржавамі свету.**

Пачатак лета сёлета ў Беларусі супаў зноў з адчувальным пахаладаннем і прынёс таксама шэраг значных для насельніцтва навін. З 1 чэрвеня сюрпрызам стала тое, што пры пакупцы замежнай валюты ў беларусаў перасталі патрабаваць пашпарты. Суайчыннікі даведаліся, што з 1 студзеня 2019 года ў краіне запланавалі пачаць выдаваць на 10 гадоў нацыянальныя біяметрычныя пашпарты і id-карты. Па ўсім бачна, усё ідзе да таго, што ўжо ў наступным годзе кошт шэнгенскіх віз для грамадзян нашай краіны пожа патаннець да 35 долараў. Увогуле на заходнім накірунку супрацоўніцтва ўсё болей для нас становіцца зрухаў, чаго не скажаш пра нашу ўсходнюю суседку Расію.

Невыпадкова пра гэта шчыра выказаўся і глава айчыннага МЗС У. Макей у кулуарах нядаўняй канферэнцы па эканамічнай бяспецы ў рамках "Мінскага дыялогу". Не сакрэт, што канфлікт паміж Крамлём і заходнімі дзяржавамі абвастрыўся настолькі, што стаў закранаць інтарэсы беларускай эканомікі. Манапаліст "Газпрам" пакінуў для Беларусі леташнюю цану на газ, а "Расельгаснагляд" забараніў пастаўкі прадукцыі яшчэ з Салігорскай птушкафабрыкі, у беларускім малацэ знайшоў нават дзіўныя прыкметы хвароб сіфілісу ў кароў. Расія, якую розумам заўсёды было цяжка зразумець, цяпер забараніла працаваць замежным вадзіцелям без расійскіх правоў і па-за законам могуць апынуцца там і нашы беларускія кіроўцы.

Таксама наш "старэйшы брат" хоча, каб мы і іншыя члены ЕАЭС знішчалі нелегальныя прадукты без дакументаў. У такіх вось умовах нават беларускі лідар раней падчас канфлікту з маскоўскімі калегамі прызнаваўся, што нельга ляцець на адным крыле, з улікам дзікага крэну ў бок Расіі. І вось таму парадавала, што беларускае кіраўніцтва паабяцала днямі сваю поўную падтрымку Беларуска-германскаму савету дзелавога супрацоўніцтва. Ён аднавіў сваю дзейнасць пасля працяглага перапынку, у беларускую сталіцу прыбыла прадстаўнічая дэлегацыя нямецкіх бізнесменаў. Эканамічны патэнцыял Германіі велізарны, гэта краіна – лакаматыў еўрапейскай эканомікі, але летась таваработ паміж дзвюма краінамі склаў толькі 2,3 млрд. USD.

У лепшыя гады мы з немцамі гандлявалі на агульную суму каля 5 млрд. долараў. Беларускія вытворцы зацікаўлены ў прыцягненні нямецкіх тэхналогій у шэраг галін эканомікі, найперш у вытворчасці аўтамабіляў і машын, нафтахіміі, энергетыцы, сферы высокіх тэхналогій. Нямецкім партнёрам прапанавалі стварыць СП па выпуску электрамабіляў. Менавіта на Захадзе можна атрымаць сучасныя тэхналогіі, а вось наша суседка Расія сама патрабуе мадэрнізацыі сваёй індустрыі, але замест партнёрства з ім пайшла на канфрантацыю, якой не бачна канца. Але гэта выбар нашых усходніх партнёраў, нам бы са сваімі праблемамі разабрацца.

Між тым пачалі ў нас адбывацца падзеі, пра якія яшчэ нядаўна можна было толькі марыць. Вось і ў беларускім парламенце, у яго ніжняй Палаце прадстаўнікоў у маі прайшла з удзелам замежных экспертаў публічная дыскусія на тэму ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне. Беларусь – адзіная на еўрапейскім кантыненце, дзе прымяняецца такая жорсткая мера. У той самы час англічане ўжо не забіваюць сваіх злачынцаў 50 гадоў, а ў Беларусі за гады атрымання незалежнасці расстралялі ўжо звыш 400 зняволеных. Як аказалася, сярод айчынных парламентарыяў нямала тых, хто супраць пакарання смерцю, а ў наступным 2018 годзе пройдуць слуханні сярод дэпутатаў па гэтай праблеме.

Беларусь заклікаюць адмовіцца ад бесчалавечнай кары не толькі ЕС і АБСЕ, але і іерархі Праваслаўнай царквы і Каталіцкага касцёла ў Беларусі. Ужо 140 дзяржаў свету адмянілі смяротнае пакаранне і калі і мы зробім цывілізаваны выбар, то зноў вернемся ў Савет Еўропы, яшчэ больш палепшым станоўчы імідж беларускай дзяржавы ў свеце. Першым крокам у такім напрамку магло б стаць увядзенне мараторыя на расстрэлы асуджаных, а затым гэта мера з цягам часу дапаможа знізіць нашу вялікую эканамічную залежнасць ад аднаго расійскага рынку.

Адначасова наша краіна апошнім часам актывізавала перамовы аб сваім уступленні ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. У мінулым годзе былі паспяхова завершаны двухбаковыя перамовы па гэтым пытанні з такімі магутнымі эканамічна краінамі, як Японія і Карэя. Былі падпісаны пратаколы з гэтай нагоды, застаецца яшчэ дамовіцца аб членстве ў СГА з застаўшыміся 10-15 дзяржавамі свету. Ідучы такім накірункам, Беларусь афіцыйна аб'явіла, што гатова спрацаваць візавы рэжым з магутнейшай дзяржавай на планеце ЗША. Як станоўчы факт адзначым, што менавіта ў беларусаў сярод постсавецкіх краін найбольш высокі працэнт насельніцтва з шэнгенскімі візамі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 15.06.17 | | | | Пятніца 16.06.17 | | | | Субота 17.06.17 | | | | Нядзеля 18.06.17 | | | | Пн.19.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +10 | +11 | +13 | +12 | +8 | +13 | +16 | +16 | +13 | +14 | +18 | +17 | +12 | +17 | +18 | +18 | +15 | +17 | +21 |
| Ціск | 743 | 745 | 746 | 746 | 746 | 745 | 743 | 742 | 740 | 741 | 742 | 744 | 745 | 746 | 746 | 745 | 743 | 743 | 743 |
| Вецер м/сек | 2 Пн-З | 5 Пн | 5 Пн | 3 Пн | 1 З | 1 З | 1 Пд-З | 4 У | 4 Пд-У | 4 У | 4 У | 4 У | 3 Пн-У | 1 Пн | 1 З | 2 Пд-У | 4 З | 6 З | 4 Пн-З |
| Вільготнасць | 81 | 64 | 58 | 60 | 89 | 71 | 60 | 63 | 75 | 77 | 63 | 63 | 89 | 62 | 51 | 66 | 85 | 77 | 50 |

## Дзень за днём

**"Газпрам" захаваў леташнюю цану на газ для Беларусі. Да 2019 года Беларусь можа ўвесці электронную рэгістрацыю па месцы жыхарства, нацыянальныя біяметрычныя пашпарты і id-карты. Доля стратных айчынных прадпрыемстваў у I-м квартале зменшылася на 21,2 %. Місія МВФ зноў працавала ў Беларусі. Рэальныя памеры пенсій беларусам знізіліся на 0,7 %. Перапынкі паміж заняткамі ў школе скароцяць на 10 хвілін. Беларусам дазволілі купляць валюту без пашпартоў. Зноў падаражэлі на 1-10 капеек асобныя віды цыгарэт.**

# Важнейшыя навіны свету

**КНДР.** Пасля паспяховага нарэшце запуска балістычнай ракеты глава краіны Кім Чэн Ын загадаў пачаць выпускаць яшчэ больш разбуральныя віды ўзбраенняў, прыгразіў ЗША.

**Германія.** Канцлер А. Меркель заявіла, што еўрапейцам належыць болей спадзявацца на свае сілы з улікам выхаду Англіі з ЕС і пераменамі ў ЗША пасля абрання Д. Трампа.

**Францыя.** Рабочая сустрэча прэзідэнта Э Макрона з главой РФ У. Пуціным пацвердзіла напружаны характар узаемных адносін, французы прыгразілі ўмяшацца сілай у Сірыі.

**Швецыя.** Стакгольмскі арбітражны суд стаў на бок Украіны і не задаволіў прэтэнзіі "Газпрама" да яе па аплаце газу па ўмове "бяры або плаці" ў суме 45 млрд. USD.

**Бельгія.** Старшыня Нацыянальнай асамблеі Венесуэлы Х. Борхес заклікаў ЕС увесці санкцыі супраць ураду прэзідэнта краіны М. Мадуры за жорсткія рэпрэсіі і забойствы.

**ЗША.** Сенатар Д. Маккейн заклікаў Сенат узмацніць санкцыі супраць Расіі, бо Пуцін стаў галоўнай пагрозай сусветнай бяспекі і самым сур'ёзным выклікам для амерыканцаў.

**Украіна.** Глава місіі АБСЕ А. Хуг пацвердзіў рэзкі рост парушэнняў рэжыму перамір'я ў Данбасе, за тыдзень там зафіксавалі з абодвух бакоў звыш 1200 абстрэлаў тэрыторыі.

**Малдова.** Пасля атрымання інфармацыі ад спецслужб аб нелегальнай шпіёнскай дзейнасці МЗС выслаў з краіны на працягу 72 гадзін адразу 5 расійскіх дыпламатаў.

**Чарнагорыя.** У МЗС краіны выклікалі расійскага пасла і перадалі ноту пратэсту з-за затрымання ў аэрапорце Масквы хворага дэпутата парламента краіны М. Вукавіча.

**Венесуэла.** За адзін дзень масавых пратэстаў супраць прэзідэнта-папуліста М. Мадуры ў краіне паранілі яшчэ 250 чалавек, тут сур'ёзны эканамічны крызіс, не хапае прадуктаў.

**Панама.** Былы ваенны дыктатар краіны М. Нар'ега памёр ва ўзросце 83 гады ад пухліны мозгу, ён апошнія дзесяцігоддзі правёў у турмах ЗША, Францыі і на сваёй радзіме.

**Малдова.** На прыднястроўскім участку граніцы адкрыўся першы з 14 сумесны малдова-ўкраінскі мытны пост, улады непрызнанай ПМР засталіся гэтым моцна незадаволены.

**Расія.** Масквічоў не папярэдзілі аб набліжэнні ўрагану, з-за чарговага правалу МНС РФ загінулі 16 і 146 чалавек былі паранены, хоць яно мае сваю армію і найболей генералаў.

**Германія.** У парадку эксперыменту ў адным з пратэстанцкіх храмаў горада Вітэнберг з'явіўся робат, які замест святара чытае Біблію і благаслаўляе вернікаў.

**Славенія.** На могілках горада Марыбор з'явіўся першы ў свеце лічбавы надгробны помнік, які паказвае наведвальнікам па манітору фота, відэа пра жыццё нябожчыка ў мінулым.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Глава Мінсельгасхарча Беларусі Л. Заяц прызнаў, што вельмі цяжка размаўляць з прадстаўнікамі "Рассельгаснагляду", прагрэс на перамовах з імі пакуль невялікі.

**Астравец.** Дзясяткі замежных паслоў і дыпламатаў, акрэдытаваных у Мінску, акрамя літоўцаў, азнаёміліся з ходам будаўніцтва Беларускай АЭС магутнасцю 2400 МВт.

**Жлобін.** На двух аб'ектах у раёне спецыялісты РУП "Беларуснафта" пачалі бурэнне свідравін для здабычы нафты, летась прыток яе запасаў склаў 1,2 млн. тон.

**Мінск.** Пасол Польшчы К. Паўлік пацвердзіў, што палякі даўно гатовы да запуску малога прыгранічнага руху, але такога сігналу ад улад Беларусі да гэтага часу няма.

**Магілёў.** Міліцыя па падазрэнні ў карупцыі затрымала аднаго з кіраўнікоў ААТ "Бабуліна крынка" і прадстаўніка камерцыйнай фірмы, яны нанеслі ўрон прадпрыемству.

**Салігорск.** Падрадная фірма завысіла кошт работ па афарбоўцы металаканструкцый на "Беларуськаліі" і незаконна зарабіла звыш 13 тысяч рублёў, 3-х кіраўнікоў арыштавалі.

**Астравец.** Упаўнаважаны ўрада Польшчы П. Наймскі пацвердзіў, што кампанія PSE не будзе купляць электраэнергію з БелАЭС, пачала дэмантаж ЛЭП Рось-Беласток.

**Мінск.** Старшыня ТБМ А. Трусаў прапанаваў беларускім і ўкраінскім гісторыкам і мовазнаўцам напісаць сумесны падручнік гісторыі сярэдніх вякоў з Кіеўскай Русі да ВКЛ.

**Гродна.** Экс-кандыдат у прэзідэнты ў 2001 годзе Сямён Домаш знайшоў сабе новую працу і стаў адным з кіраўнікоў завода АВС па вытворчасці прадуктаў харчавання.

**Гомель.** Абласная бібліятэка пісьмова адмовіла пісьменніцы, лаўрэату Нобелеўскай прэміі С. Алексіевіч у правядзенні творчай сустрэчы з чытачамі, яе ахвотна прымаюць у свеце.

**Беразіно.** Трагічна загінуў 13-гадовы падлетак, які гойдаўся і сарваўся з тарзанкі на дрэва ля ракі Беразіна, бухнуўся ў ваду і патануў, калі яго нанесла моцнае цячэнне.

**Мазыр.** На працягу сутак у горадзе і раёне выпала больш 120 % месячнай нормы ападкаў дажджоў, моцна заліло таксама Васілевічы і Касцюковічы і прылягаючыя да іх вёскі.

**Мінск.** Тэлевядучы канала АНТ В. Бандарэнка абурыўся, што ў Беларусі рускую мову пачалі дыскрымініраваць, а цырымонію "Тэлевяршыня" правялі пераважна пабеларуску.

**Магілёў.** З абласнога бюджэту на ганарар тром расійскім спевакам А. Вараб'ёву, А. Газманаву і Л. Лешчанку за выкананне 11 песень выплацяць 84 тысячы долараў.

**Мінск.** На нарадзе ў А. Лукашэнкі пацвердзілі няпростую сітуацыю з фінансамі ў ХК "Дынама", у хакеістаў даўгі па зарплаце, ім не выплацілі прэміі за выхад у плей-офф КХЛ.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Экс-глава вобласці А. Косінец нечакана зноў вярнуўся на дзяржслужбу і стаў памочнікам А. Лукашэнкі, у падпарадкаванні сваёй былой падначаленай Н. Качанавай.

**Дуброўна.** Частку аб'ектаў да абласных "Дажынак-2017" здалі, на шэрагу іншых работы зацягваюцца з-за дрэннага фінансавання, горад не паспяваюць абнавіць да свята.

**Паставы.** Філіялам "Пастаўскі малочны завод" па рашэнні аблвыканкама стаў раней перадавы калгас "Камайскі-агра", ён апынуўся ў складаным фінансавым становішчы.

**Орша.** Трое школьнікаў пасля заняткаў днём гераічна прадухілілі пажар у вёсцы Клюкаўка, насілі рукамі пясок і не далі разгарэцца полымю ад гарэння сухой травы.

**Полацк.** Па справе аб карупцыі і махінацыях суд пакараў былога дырэктара вінзавода 7 гадамі турмы, яшчэ трое фігурантаў па ёй атрымалі меншыя тэрміны зняволення.

**Віцебск.** У пад'ездзе жылога дома 34-гадовы, раней судзімы жыхар Віцебскага раёна напаў на 9-гадовую дзяўчынку, хацеў сарваць адзенне і збег, яго затрымалі праз гадзіну.

**Талачын.** Памочнік прэзідэнта А. Пазняк даручыў уладам раёна канчаткова вырашыць лёс Коханаўскага льнозавода, бо бюджэтных паступленняў на яго капрамонт не будзе.

**Віцебск.** У будынку Дзяржпрамнагляду адкрылі першы ў вобласці і другі ў краіне ўнікальны аб'ект – Цэнтр бяспекі, дзе навучаць, як дзейнічаць у надзвычайных сітуацыях.

**Паставы.** У цэнтральнай аптэцы № 87 раёна пачалі ствараць музейную кампазіцыю ў рамках падрыхтоўкі да правядзення рэспубліканскага семінара правізараў і фармацэўтаў.

**Глыбокае.** Днём у вёсцы Дзмітрыеўшчына-2 Азярэцкага сельсавета пачаўся пажар ў хляве памерам 8х10 метраў, агонь знішчыў дах, пашкодзіў столь.

**Ноўка.** Толькі летась ў пасёлку здалі шматкватэрны жылы дом, але ўжо не працуюць насосы, у кватэры перастала паступаць гарачая вада, жыхары паскардзіліся главе вобласці.

**Наваполацк.** Гарадзел міліцыі ўзнагародзіў грашовымі прэміямі траіх пяцікласніц, якія вечарам смела пагналіся за рэцыдывістам і дапамаглі затрымаць злодзея.

**Докшыцы.** Ужо 15 зямельных участкаў і хат выкупілі гараджане, пераважна з Мінска, у аддаленай вёсцы Улессе, што ў 15 км ад Бягомля, многія з іх пачалі будаваць новыя дамы.

**Сянно.** Вечарам у 20 гадзін 4 мінуты на аўтадарозе паблізу вёскі Полымя па невядомай прычыне загарэўся і поўнасцю згарэў легкавы аўтамабіль "Масквіч 2141".

**Верхнядзвінск.** Зборная раёна стала пераможцам абласной спартакіяды "Сельскія гульні-2017" у агульнакамандным заліку сярод каманд з 19 рэгіёнаў Прыдзвіння.

*Служба інфармацыі "ВГ" (пазвесткахінфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Як вы ставіцеся да слоў Святланы Алексіевіч?

**Падчас эфіру на расійскім незалежным тэлеканале «Дождь» беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч перасцерагла гледачоў на прыкладзе Беларусі. «Вайна, якую распачала Расія на Данбасе, – на сумленні Расіі. Таму што гэткую вайну можна распачаць і ў Беларусі: дайце туды танкі і зброю – і там каталікі будуць забіваць праваслаўных і каго-заўгодна», – заявіла пісьменніца. Гэтыя словы выклікалі шквал абмеркаванняў у СМІ. Мы таксама вырашылі да гэтага далучыцца і папрасілі каталіцкіх святароў пракаментаваць гэта выказванне.**

**Зміцер Лупач**



**Біскуп Алег Буткевіч:**

– Хочацца верыць у тое, што кантэкст, у якім яны былі сказаныя, не меў на ўвазе той варажнечы паміж нашымі дзвюма канфесіямі - каталіцкай і праваслаўнай, варажнечы, якой насамрэч няма. Але прагучала тое, што прагучала. Лічу, што гэта нейкім чынам трэба выпраўляць, калі ўжо гэта выказванне атрымала такі рэзананс. Усякае можа здарыцца, любы чалавек можа агаварыцца, але трэба растлумачыць, што мелася на ўвазе і чаму менавіта гэтыя словы былі сказаныя.



**Ксёндз Вячаслаў Барок:**

– Хацелася б адносіцца да Святланы Алексіевіч з усёй павагай, але наконт яе апошніх выказванняў, то, мне здаецца, яна не да канца падумала. Выказванне яе не абачлівае, тут ёсць нейкі негатыў.

Святлана Алексіевіч – вельмі таленавітая пісьменніца, тое, што яна паказала вайну такой, якой яна ёсць, заслугоўвае толькі пахвалы.

Але з іншага боку тое, што яна сказала: «Дай на Беларусь зброю - і каталікі пачнуць забіваць праваслаўных»,- не вытрымоўвае ніякай крытыкі. Я вельмі спадзяюся, што сама спадарыня Святлана перажывае зараз за свае словы.

Вядома, нельга рабіць ілюзій, што ў нас у Беларусі існуе суцэльны супакой. Бо што такое супакой? Гэта плод справядлівасці. Калі ёсць справядлівасць, то ёсць і супакой. У нашай краіне да справядлівасці яшчэ ой, як далёка. Да гэтага трэба яшчэ ісці, ісці і ісці. Для гэтага трэба аб'ектыўна ацаніць гісторыю. А мы шмат чаго яшчэ не ведаем. Вось калі адкрыюцца ўсе архівы, то тады мы можам сказаць, што мы выйшлі на шлях справядлівасці. А пакуль мы гісторыю не ведаем, хаваем яе пад невядома якімі замкамі, то цяжка казаць пра нейкую справядлівасць. А няма справядлівасці – няма і супакою. Да гэтага трэба яшчэ ісці. Таму я згаджаюся з тымі гісторыкамі, што кажуць, што ў нас такія канфлікты здараліся. Так, цалкам згодны, такія канфлікты былі. Але яны здараліся не таму, што былі праблемы ў вернікаў, а таму, што праваслаўная Царква і каталіцкі Касцёл выкарыстоўвалі тую ці іншую палітычную плынь для прасоўвання сваіх інтарэсаў. На жаль, такое было. Гэтага не трэба цурацца, трэба прызнаць памылкі і зрабіць так, каб яны не паўтараліся.

І сёння мы ўсе сядзім як на парахавой бочцы. І ў такой сітуацыі выказваццa так, як выказалася Алексіевіч, то гэта ні да чаго добрага не прывядзе. Тут няма праблемы паміж каталікамі і праваслаўнымі, хіба толькі хто хоча Царкву праваслаўную выкарыстаць у сваіх мэтах. І мы бачым, што ў свеце гэта робіцца.

Я думаю, спадарыня Алексіевіч неяк патлумачыць свае выказванні. З іншага боку мы бачым, як цяжка чалавеку вырвацца з кайданоў савецкай ментальнасці.

**PS:** Трэба сказаць, што сама Святлана Алексіевіч пасля заявіла, што яе словы зразумелі няправільна, іх яна прызнала проста як прыклад. Трэба адзначыць: прыклад не зусім удалы, бо ўсё ж публічнай асобе варта больш адказна ставіцца да сваіх слоў.

■ Уладзімір Скрабатун

# Выпускнікі школ атрымалі пуцёўкі ў дарослае жыццё!

9 чэрвеня ў школах ўсёй Беларусі адбыліся выпускныя вечары. Выпускнікі развіталіся з дзяцінствам! Атрымліваючы атэстаты аб сярэдняй адукацыі і Пахвальныя лісты за добрую вучобу, выпускнікі разам з гэтым атрымлівалі, фактычна, і пуцёўку ў дарослае жыццё.

Аўтаргэтых радкоў завітаў у Глыбоцкую СШ№3. Поўная зала прысутных! Радасны і адначасова шчымлівы да слёз дзень. Слёзы на вачах у выпускнікоў, іх бацькоў, а таксама класных кіраўнікоў выпускных класаў.

Атэстаты выпускнікам уручыў Васіль Аляксандравіч Любоза, дырэктар школы. Шмат хто з выпускнікоў разам з атэстатам атрымаў і Пахвальныя лісты за выдатную вучобу, а таксама за актыўнае грамадскае жыццё класа і школы. Некаторыя выпускнікі былі ўганараваныя і за спартыўныя поспехі. Нямала бацькоў атрымала ўдзячнасці ад дырэктара школы за годнае выхаванне сваіх дзяцей-выпускнікоў. На заканчэнне выпускнікі школы зладзілі развітальны тэатралізаваны канцэрт, які шмат каго крануў да слёз.

Пасля сканчэння выпускных вечароў ва ўсіх школах і садах-школах Глыбоцкага раёна ўсе выпускнікі з'ехаліся на галоўную плошчу Глыбокага на агульнараённае свята выпускнікоў 2017 года. Са сцэны была агучаная лічба – 281 выпускнік сёлета на Глыбоччыне!

**У добры шлях!**




**Выпускнікі Падсвільскай СШ на шэсці выпускнікоў на Цэнтральнай плошчы ў Глыбокім.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Многія бацькі выпускнікоў Глыбоцкай СШ№3 атрымалі падзякі з рук дырэктара школы Васіля Аляксандравіча Любозы за годнае выхаванне сваіх дачок і сыноў. На здымку спадарства Шарабайкаў атрымлівае падзяку за годнае выхаванне сына-выпускніка Ягора.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Кранальнае да слёз развітанне выпускнікоў 11-А і 11-Б Глыбоцкай СШ№3 са сваімі класнымі кіраўнікамі.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Адпуст св. Андрэя Баболі, асвячэнне байкераў, канцэрт на прыступках святыні: пастырская візітацыя біскупа Алега Буткевіча ў Лучаі

■ Тэкст: Алена Клімза-Колтан

*Фота з архіва парафіі*

"На беларускай зямлі цудоўнай,
Там, дзе квітнее пастаўскі край.
У сваёй велічы невымоўнай
Вас сустракае здалёк Лучай!"

**Словамі гімна вёскі Лучай сустрэла парафія святога Юды Тадэвуша, Апостала – шаноўнага госця – біскупа Алега Буткевіча. 21 мая падчас адпустовай урачыстасці святога Андрэя Баболі праходзіла пастырская візітацыя Віцебскага Ардынарыя. Па беларускай традыцыі хлебам-соллю віталі паважанага госця.**

Ва ўступным слове пробашч парафіі Мікалай Ліпскі прывітаў Яго Эксцэленцыю і ўсіх сабраных у святыні. Нагадаў, што сёлета 16 мая адзначаецца 360 год мучаніцтва святога Апостала Палесся – Андрэя Баболі. Пасля была прадастаўлены звесткі з мінулай гісторыі і з жыцця парафіі ў сучаснасці.

Урачыстай працэсіяй святароў і міністрантаў на чале з біскупам Алегам распачалася Святая Імша. Падчас гаміліі Віцебскі Ардынарый засяродзіў увагу на святым Андрэю Баболі. Падрабязна расказваючы пра жыццядзейнасць пакутніка, казнадзей назваў яго дарам для сучаснага свету, прыкладам мужнасці. Угадаў таксама і пра святога Язафата Кунцэвіча, які таксама як і Апостал Палесся – Андрэй Баболя, стаў пакутнікам, бо змагаўся за еднасць хрысціянаў. "Абоім святым давала сілы еднасць з Богам праз малітву. Бог умацоўвае нас, калі мы шукаем Яго, калі хочам здзейсніць тое, што запланавана Богам." – зазначыў іерарх.

Эўхарыстычная працэсія з традыцыйнымі дарамі вернікаў розных узростаў стала ўпрыгожваннем адпустовай урачыстасці. Адмысловы спеў мясцовых вернікаў і ўдзельнікаў гурта "Laudans" з Мінску пад гучанне двухсотгадовага аргана дадаў святочнасці.

Скончылася Літургія літаніяй да святога Андрэя Баболі перад абразом пакутніка, які знаходзіцца ў правай бочнай наве святыні. Пасля распачалася працэсія з Найсвяцейшым Сакрамантам вакол святыні. Вярнуўшыся ў касцёл, вернікі праспявалі гімн"Цябе Бога, праслаўляем" і хрысціянскі гімн Беларусі "Магутны Божа".

Працяг святочнай праграмы адбыўся на вуліцы. Напачатку ксёндз біскуп асвяціў усіх байкераў з нагоды адкрыцця сезона. Нагадаю, што другі год запар на фэст святога Андрэя Баболі збіраюцца аматары матацыклаў, каб з Богам распачаць новы сезон.

Цудоўнае майскае надвор'е, нягледзячы на прагнозы сіноптыкаў, спрыяла канцэртнай праграмме на прыступках святыні. Дарэчы, мінулай восенню была пакладзена новая плітка на імправізаванай сцэне перад уваходнай брамай. Канцэртная праграмма складалася з найлепшых сяброў Лучайскай парафіі. Хрысціянскі гурт "Laudans" распачаў святочную праграмму. Артысты прадставілі слухачам творы з новага альбому "Адзінства". Пераняў эстафету Аляксей Жбанаў – аўтар Лучайскага гімна. Артыст праспяваў творы са сваёй візітнай карткі: "Гімн Лучая", "Пад небам Парыжа", "Хай радасць з вачэй нашых блісне"і іншыя.

Славуты, легендарны Лявон Вольскі і Павел Аракелян ад 2012 года хаця б раз на год з'яўляюцца ўдзельнікамі фэстаў. Здаецца, слухаць іх можна бясконца. Цудоўнае спалучэння музыкі і злабадзённых тэмаў песень аўтара прыцягвае да сябе вялікую колькасць аматараў беларускай музыкі. Ніколі не цураецца музыка канцэртнай пляцоўкі ў вёсцы Лучай. Хаця ведаюць яго далёка па-за межамі нашай краіны.

Акардэаніст-віртуоз Дзмітрый Корсак, які спецыяльна для гэтай падзеі прыўрочыў свой прыезд з Кітая (!!!), сваімі творамі нагадаў усе цудоўныя моманты Лучайскіх фэстаў. Артыст цесна супрацоўнічае з парафіяй ужо трэці год.

Сапраўдным "старажылам" лучайскіх святаў стаў Андрусь Такінданг з гуртом "Recha". Цяжка падлічыць ужо колькасць выступаў у Лучайскай парафіі за апошнія 6 год. Музыкі радуюць прысутных і творамі ранейшага перыяду, якія многія з слухачоў ведаюць на памяць, і пастаянна прадстаўляюць новыя песні. Скончыўся канцэрт песняй "Да сустрэчы! Да пабачэння!" – у выкананні Андруся і ўсіх прысутных.

Напрыканцы біскуп Алег Буткевіч падзякаваў прысутным артыстам за выступ і пажадаў шчаслівай дарогі дадому, удзяліўшы сваё пастырскае благаслаўленне.

Акрамя касцёла ў Лучаі, біскуп Алег за два дні візітацыі наведаў парафіяльныя могілкі і, сустрэўшыся з вернікамі ў капліцах Цешалава, Навасёлкі і Стары Двор, узначаліў святую Імшу.



**Біскуп Алег Буткевіч і акардэаніст-віртуоз Дзмітрый Корсак.**




**Андрусь Такінданг (злева) з гуртом "Recha".**

■ Кацярына Волахава,
*урач-гігіеніст.*

# Наркаманія ўяўляе пагрозу ўсяму грамадству

Сёння наркаманія закранула ўсе краіны свету, лік тых, хто ўжывае наркотыкі, перавышае 200 млн. чалавек. У Рэспубліцы Беларусь сітуацыя з наркаманіяй і незаконным зваротам наркотыкаў працягвае заставацца напружанай, але кантраляванай дзякуючы цеснаму ўзаемадзеянню аховы здароўя, праваахоўных органаў і грамадзянскай супольнасці. У Рэспубліцы Беларусь на 1 студзеня 2016 года пад назіраннем урачоў псіхіятраў-нарколагаў знаходзіцца каля 14,5 тысяч наркazалежных чалавек (на 5,7% менш, чым у 2014 годзе).

Надзвычай насцярожвае факт таго, што з'яўляюцца, сучасныя наркатычныя сродкі, здольныя сфармаваць наркатычную залежнасць літаральна за некалькі прыёмаў. Наступствы гэтага захворвання надзвычай небяспечныя, бо адбываюцца грубыя парушэнні функцый унутраных органаў, нервовай сістэмы і дэградацыя асобы. Наркаманы схільныя рызыцы заражэння і спрыяюць распаўсюду ВІЧ-інфекцыі, вірусных гепатыту, венерычных хвароб і іншых небяспечных інфекцыйных захворванняў. Таксама ў апошнія гады было зарэгістравана павелічэнне ліку смяротнасці грамадзян ад передазовак наркатычнымі сродкамі (у 2014 годзе 53 чал., у 2013 годзе 83 чал.).

Наркаманія ўяўляе пагрозу жыццю і здароўю не толькі для асобнага чалавека. Яна ўяўляе небяспеку для ўсяго грамадства. Большасць наркаманаў не працуе, паколькі яны здольныя да працоўнай дзейнасці толькі напачатку захворвання і ў большасці выпадкаў, толькі ў стане наркатычнага ап'янення.

Апроч таго, што наркаманія прыводзіць да фізічнай, маральнай і сацыяльнай дэградацыі асобы, яна пхае "страціўшых сябе" і страчаных людзей на злачынствы. Наркаманію варта разглядаць як бедства, супраць якога грамадства павінна ўзвесці непераадольны бар'ер. Праблема распаўсюду наркаманіі займае не апошняе месца і ў ліку чыннікаў высокай смяротнасці, нізкай нараджальнасці і недапушчальна нізкай сярэдняй працягласці жыцця ў рэспубліцы.



Варта адзначыць, што ў апошнія гады шырокі распаўсюд атрымалі так званыя "спайсы". Гэта адмысловыя курыльныя сумесі, у склад якіх уваходзіць трава і сінтэтычныя рэчывы, іншымі словамі сыравіна ў выглядзе цалкам бяспечнай курыльнай травы апрацоўваюць моцнадзейнымі псіхатропнымі рэчывамі, якія і выклікаюць некантралюемыя рэакцыі. Самае страшнае, што паводле дадзеным асноўным кантынгентам з'яўляюцца дзеці ва ўзросце ад 13 да 20 гадоў.

Тут самае галоўнае нікому не заставацца абыякавым і не думаць, што гэта мяне не датычыць. Гэта значыць, калі Вы ведаеце пра незаконны распаўсюд ці захоўванне наркатычных рэчываў, то неадкладна звяртайцеся ў міліцыю па нумары 102 і паведаміце пра правапарушэнне. Калі дапамога патрэбна Вам ці блізкім вам людзям у барацьбе з нарказалежнасцю, то таксама звяртайцеся за дапамогай ва ўстановы аховы здароўя.

# Скралі мыйны апарат "Керхер"

**У вытворчасці Глыбоцкага раённага аддзела Следчага камітэта знаходзіцца крымінальная справа, узбуджаная 21.04.2017 па ч.1 арт.205 КК Рэспублікі Беларусь па факце крадзяжу мыйнага апарата "Керхер".**

На падставе выкладзенага, просім аказаць дапамогу ва ўсталяванні навочных сведкаў дадзенага злачынства.

**Інфармацыя аб злачынстве:**

Перыяд часу, у які здзейснена – са снежня 2016 па 24.01.2017 гг.

Месца здзяйснення злачынства – г.Глыбокае, вул.Дзяржынскага (гаражныя, сарайные будынкі) зблізку хаты №18.

**Акалічнасці злачынства:**

У перыяд часу са снежня 2016 года па 24.01.2017 неўсталяваная асоба таемна выкрала з незапертай адрыны, размешчанай каля дома № 18 па вул. Дзяржынскага ў г.Глыбокае мыйны апарат "Керхер". З выкрадзеным схавалася і распарадзілася па сваім меркаванні, прычыніўшы ўрон на суму 100 рублёў.

Навочных сведкаў і асобаў, якім вядомая асоба, якая выкрала мыйны апарат "Керхер", прашу звяртацца ў Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта па адрасе: г.Глыбокае, вул. Леніна, в.95, каб.№1, ці патэлефанаваць па нумар: 5-04-11.




**Загадзя ўдзячны за супрацоўніцтва, з павагай,**

***А.Д. Касцючэнка,***
*следчы СА Глыбоцкага РАСК.*

# Не размаўляй па тэлефоне на дарозе!

■ Ю.В. Заяц,
*старэйшы дзяржаўтаінспектар АДАІ.*

**Паважаныя бацькі!** 03.06.2017 у 12:35 кіроўца аўтамабіля Пежо грамадзянін С. на 3-ім кіламетры аўтадарогі Н-2402"Глыбокае-Верхняе-Запаснікі", рухаючыся ў н.п. Шунеўцы з боку г. Глыбокае, здзейсніў наезд на раптам выбеглую на праезную частку, з правага боку на левую, якая перад гэтым ішла па правай па ходзе руху кіроўцы абочыне, непаўналетнюю Т. 2005 года нараджэння. У выніку дарожна-транспартнага здарэння пешаход Т. атрымала цялесныя пашкоджанні, з якімі дастаўлена ў УЗ Глыбоцкая ЦРБ. Па тлумачэннях навочных сведкаў, у момант ДТЗ дзяўчынка размаўляла па мабільным тэлефоне.

Хацелася б звярнуцца да бацькоў з просьбай, тлумачыць і патрабаваць з дзяцей выканання ПДР, падчас удзелу ў дарожным руху быць уважлівымі, не размаўляць па тэлефоне, не карыстацца слухаўкамі, не ládзець гульняў на дарозе, на ўласным прыкладзе вучыць іх правамерным паводзінам.

# Культура васьмі краін была прадстаўлена на фестывалі "Звіняць цымбалы і гармонік" у Паставах

Культура васьмі краін была прадстаўлена 9-11 чэрвеня на XX Міжнародным фестывалі народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік" у Паставах Віцебскай вобласці, паведамілі карэспандэнту БелТА ў Пастаўскім райвыканкаме. Удзельнікамі мерапрыемстваў, якія праводзіліся на 11 пляцоўках, сталі каля 400 чалавек. Асноўныя падзеі прайшлі 9 чэрвеня. Менавіта ў гэты дзень адбыўся конкурс калектываў і індывідуальных выканаўцаў на народных інструментах "Хто каго?". "Непасрэдна ў конкурсе бралі ўдзел прадстаўнікі Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі. Але ў цэлым была прадстаўлена культура васьмі краін. Да пераліčаных трэба дадаць Польшчу і Германію. Творчы калектыў з Бабруйска прадставіў на фестывалі нямецкую культуру. Адным з ключавых момантаў стала адкрыццё мемарыяльнай дошкі, прысвечанай польскім акцёрам Станіславу Ясюкевічу і Зігмунту Кенстовічу. Таму размова была і аб польскай культуры, пры гэтым прыехалі на фестываль госці з Польшчы", – адзначылі ў райвыканкаме. Праграма была насычаная і разнастайная. Былі арганізаваны канцэрты, забаўляльныя і спартыўныя мерапрыемствы, тэатралізаваныя паказы, прэзентацыі, выставы. Дарэчы, адна з іх прымеркавана да Года навукі: экспазіцыя прысвечана вядомым вучоным ураджэнцам Пастаўскага раёна. Не забылі арганізатары і пра моладзь.




У Паставах завітала шоу-група "Маракасы" (калектыў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў), праставілі вогненнае шоу, феерверк і забаўляльную праграму з удзелам лепшых дыджэяў вобласці. Яркім фіналам стаў гала-канцэрт удзельнікаў, у якім выступіў і ансамбль салістаў Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя Жыновіча. Гаворачы пра фестываль, народныя інструменты і пра Паставы, нельга не адзначыць, што ў раёне да нашых дзён захавана самабытная традыцыя ігры на дыятанічных цымбалах. Гэтым майстэрствам валодаюць удзельнікі фальклорнага ансамбля "Паазер'е" (заслужаны самадзейны калектыў Беларусі), асвойваць сакрэты ігры нядаўна сталі і выхаванцы аднаго з дзіцячых музычных калектываў раёна. За ўсю гісторыю фестывалю ў творчым спаборніцтве ўдзельнічалі каля 13 тыс. музыкантаў. На форуме выступалі прадстаўнікі больш як 20 краін, у тым ліку Італіі, Грузіі, Венесуэлы.




***Паводле БелТА.***

*Фота Таццяны Смоткінай.*

# Загадкавая смерць рыбака пад правадамі ЛЭП ля Шунеўцаў

■ **А. В. Сіўко,**
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

У сувязі з вялікай колькасцю азёр і рэк у Глыбоцкім раёне занятак рыбнай лоўляй з'яўляецца адным з найпапулярных відаў вольнага часу. Часцяком рыбалка сумяшчаецца з правядзеннем адпачынку, але, на жаль, не шмат хто задумваецца пра бяспеку яго правядзення, а ў прыватнасці пра электрабяспеку. Рыбалка часцяком прыносіць не толькі задавальненне, але таксама ўтойвае пагрозу жыццю. Часцей за ўсё гэта адбываецца, калі паветраныя лініі электраперадач праходзяць зблізку вадаёмаў.

**4.05.2017** года дыспетчару Глыбоцкага РЭС паступіў званок з РАУС аб тым, што паблізку н. п. Шунеўцы пад напругу патрапіў чалавек. Падчас далейшага расследавання было ўсталявана, што мясцовы жыхар, 1956 года нараджэння, увечары 13 траўня сышоў на рыбалку і не вярнуўся дахаты. Раніцай наступнага дня цела пацярпелага было выяўлена ляжалым на беразе забалочанай мясцовасці, вуда знаходзілася ў вадзе. У сярэдзіне пралёта ВЛ-10 кВ на правадах былі выяўлены абрывак лескі з паплаўком.

Дадзеная мясцовасць не разглядалася як магчымае месца для рыбнай лоўлі, і чым кіраваўся пенсіянер ,закідваючы вуду наўпрост пад высакавольтнымі правадамі, застаецца загадкай.




**Паважаныя рыбаловы!** Будзьце ўважлівыя і асцярожныя паблізу ліній электраперадачы. Выконвайце патрабаванні папераджальных і забараняльных плакатаў. Не пакідайце дадзеную інфармацыю без увагі. Распавядайце аб небяспецы рыбнай лоўлі паблізу энергааб'ектаў сябрам, суседзям, сваякам і будзьце ўпэўнены, што інфармацыя якой вы падзеліцеся, выратуе ад бяды нечае жыццё!

# Нельга лавіць рыбу на 10 кручкоў адначасова без наяўнасці дзейснага квітка рыбалова

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Лета ў поўным разгары. Дні стаяць цёплыя, і рыбаловы працягваюць актыўную рыбалку, у тым ліку падводнае паляванне, лоўлю рыбы тролінгам. У сувязі з гэтым лічым неабходным нагадаць, што і на рыбалцы неабходна выконваць Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства Рэспублікі Беларусь.**

Да прыкладу, нельга лавіць рыбу на 10 кручкоў адначасова, без наяўнасці дзейснага квітка рыбалова, выкідваць ці пакідаць смецце на беразе, а ляжалае на месцы лоўлі смецце рыбалоў абавязаны прыбраць, ажыццяўляць пад'езд, стаянку на механічных транспартных сродках да берагавой лініі вадаёма бліжэй за 30 метраў, ажыццяўляць лоўлю рыбы, на якую ўведзена забарона ў дадзены перыяд (сом), лоўля рыбы ў якасці прынады для лоўлі іншых відаў рыбы не больш за 30 штук на аднаго рыбалова ў суткі, можна выкарыстоўваць багорык з шырынёй кручка (адлегласць ад цаўя да ляза джала) не больш за 9 см.

Лоўля рыбы спосабам тролінга дазволена амаль на ўсіх вадаёмах, аднак грамадзянін пры тролінгу абавязаны выкарыстоўваць толькі адзін спінінг. А вось гэта правіла вельмі часта парушаюць рыбаловы, выкарыстоўваючы 2-3, а часам і 5 спінінгаў. Парушэнне дзейсных Правіл можа прывесці да сур'ёзных непрыемнасцей з законам, штрафу ў памеры ад 20 да 50 базавых велічынь з канфіскацыяй лодкі, матора і прылад рыбалоўства.

Пастанова й Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь ад 19.05.2014 года № 22 (у рэдакцыі ад 29.03.2016 №14) усталяваны пералік рыбалоўных угоддзяў, якія складаюць фонд запасу, у якіх рыбаловы, якія з'яўляюцца членамі рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання "БТПР", не маюць права на аматарскае рыбалоўства наступнымі спосабамі:

- лоўля рыбы на дарожку з судоў з рухавікамі.
- падводнае паляванне.

Г.зн. нават пры наяўнасці рыбалоўнага квітка рыбалоў не мае права ажыццяўляць лоўлю рыбы дадзеным спосабам на наступных вадаёмах на тэрыторыі Глыбоцкага раёна:

**азёры Алойсберг, Бяглец, Белае ў в. Бабруйшчына, Гінькава, Доўгае, Белае ў в. Івесь, Шо.**

На ўсіх астатніх вадаёмах раёна можна вольна лавіць рыбу (выключэнне -арандаваныя вадаёмы) вудамі і жарліцамі з агульнай колькасцю кручкоў, якія не перавышаюць 10 штук ( 9 жарліц і 1 вуда), аднак тролінг - толькі адным спінінгам.

Нагадваем усім рыбаловам-аматарам аб строгім выкананні правіл рыбалоўства. Вылоўліванне асобных відаў рыбы, якая не дасягнула прамысловай меры, напрыклад шчупака, не меней за 40 см., а таксама вага вылаўленай рыбы не павінна перавышаць норму 5 кг. у суткі на аднаго рыбака.

За вылоўліванне рыбы, якая не дасягнула прамысловай меры, або вага якой перавышае ўсталяваную правіламі норму, настае адміністрацыйная адказнасць па ч.2 арт. 15.35 КоАП Рэспублікі Беларусь ад папярэджання да 20 базавых велічынь з пакрыццём шкоды.

Просьба да рыбаловаўаматараў: не карыстайцеся рознымі чуткамі, усю неабходную інфармацыю Вы можаце атрымаць у супрацоўнікаў міжрайінспекцыі. Пры змене дзейсных Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ці іншага заканадаўства, якое рэгламентуе дадзеныя правілы, уся інфармацыя будзе змешчана ў сродках масавай інфармацыі.

Паспяховай усім рыбалкі! Аб усіх парушэннях можна паведамляць на тэлефон "гарачай лініі": 8-02156-5-59-80 кругласутачна, маб. МТС 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# Нацыянальны інтэрнэт-партал сацыяльнай абароны пачаў работу ў тэставым рэжыме

**Нацыянальны інтэрнэт-партал сацыяльнай абароны пачаў работу ў тэставым рэжыме, паведаміла карэспандэнту БЕЛТА прэс-сакратар Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Вольга Шчін.**

Партал (***www.psz.gov.by***) распрацаваны ў мэтах павышэння эфектыўнасці ўзаемадзеяння органаў і арганізацый сацыяльнай абароны з насельніцтвам. На ім прадстаўлена інфармацыя, электронныя паслугі і сэрвісы, што адносяцца да сацыяльна-працоўнай сферы.

"На партале можна знайсці інфармацыю аб усіх паслугах і адміністрацыйных працэдурах, што аказваюцца ў сацыяльна-працоўнай сферы, парадку і ўмовах іх атрымання, а таксама па прававых і арганізацыйных пытаннях дзейнасці органаў па працы, занятасці і сацабароне, - сказала Вольга Шчін. - Акрамя таго, партал прадастаўляе карыстальнікам магчымасць падачы электроннага звароту і запісу на прыём у любы орган або арганізацыю сацыяльна-працоўнай сферы ў рэжыме анлайн. З дапамогай электроннага лічбавага подпісу (ЭЛП) можна заказваць шэраг паслуг, у тым ліку атрымліваць аб сабе інфармацыю, зарэгістраваную ў Дзяржаўнай інфармацыйнай сістэме сацыяльнай абароны (ДІССА)".



Мінпрацы і сацабароны прапануе карыстальнікам партала выказваць свае заўвагі і прапановы аб яго рабоце.

***БелТА.***

# За год кошты на харчовыя тавары ў Віцебскай вобласці выраслі на 7.4%

■ **Сяржук Серабро**

Паводле дадзеных галоўнага статыстычнага ўпраўлення Віцебскай вобласці ў траўні кошты на харчовыя тавары ў параўнанні з мінулым годам выраслі на 7,4%.

Яшчэ мацней выраслі кошты на паслугі — 8,4%, нехарчовыя тавары падаражэлі не так прыкметна — на 1.4%.

Пры гэтым адносіны коштаў за студзень-травень 2017 года да коштаў за такі ж перыяд 2016 года складае 107,6% для харчовых тавараў, 103% – для нехарчовых і 110,2 – на паслугі.

# Каля 120 сем'яў з Украіны сёлета атрымалі ваўчары Чырвонага Крыжа ў Віцебскай вобласці

**Каля 120 сем'яў перасяленцаў з Украіны ў Віцебскай вобласці атрымалі сёлета дапамогу ў выглядзе ваўчараў на новым этапе праекта Міжнароднага камітэта Чырвонага Крыжа, паведамілі карэспандэнту БелТА ў Віцебскай абласной арганізацыі БАЧК.**

Больш за 270 ваўчараў выдадзена ўкраінскім мігрантам у Віцебскай вобласці за лістапад

*"З 2014 года, гэта значыць з самага пачатку прытоку перасяленцаў з Луганскай і Данецкай абласцей у Беларусь, Чырвоны Крыж пачаў аказваць ім розную дапамогу: кансультацыі і званкі сваякам, збор адзення і іншых рэчаў ад насельніцтва, гуманітарныя наборы і іншае. Тады ж стартавала і выдача ваўчараў на куплю прадуктаў харчавання і сродкаў гігіены. У сакавіку бягучага года пачаўся чатырохмесячны этап праекта "2017 МККК". Віцебскай вобласці Міжнародным камітэтам пералічана Br48 тыс. І з гэтых сродкаў ужо 116 сем'яў перасяленцаў у нашым рэгіёне атрымалі дапамогу: хтосьці аднакратна, гэта значыць за адзін месяц з чатырох, хтосьці – за некалькі. Паколькі сума не такая вялікая, мы ацэньваем сітуацыю кожнага заяўніка, каб такую фінансавую падтрымку атрымалі тыя, каму без яе ніяк не абысціся",* – растлумачылі ў арганізацыі.

Ваўчары на суму Br100 кожны выдаюцца мэтавай катэгорыі, якая асаблівага мае ў ёй патрэбу. Гэта няпоўныя сем'і з дзецьмі з абмежаваным прыбыткам, шматдзетныя сем'і, цяжарныя і маці, якія кормяць (такіх, дарэчы, асабліва шмат у Віцебскай вобласці), пажылыя людзі (мужчыны – старэй за 65 гадоў, жанчыны – старэй за 58) без прыбыткаў ці з нізкай пенсіяй, дзеці без апекі бацькоў і сіроты да 18 гадоў. Прычым, калі ў сям'і 3-4 чалавекі – выдаецца 2 ваўчары, 5 і больш – 3 ваўчары. Атаварыць іх можна ў крамах сеткі "Белкаапсаюза". *"Мы падзялілі сродкі па шасці зонах, выдача вядзецца ў гарадах Віцебск, Орша, Полацак, Лепель, Расоны, Докшыцы. Пры гэтым ваўчары выдаюцца ў выглядзе 5 папер добрай якасці Br20 кожная – для выгоды разлікаў. Цяпер у нас гарачая пара – заяўнікаў прыходзіць вельмі шмат. Але мы чакаем, што гэта не адзіны этап выдачы ваўчараў у цяперашнім годзе. Дапамога перасяленцам з Украіны будзе аказвацца і далей",* – паведамілі ў абласной арганізацыі БАЧК.

***Кацярына Князева – БЕЛТА.***

